# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банкавае конто: Verlag „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 36 (266) — Нядзеля 4 верасьня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Чу-Эн-Ляй

Прэм'ер-міністар камуністычнага Кітаю, уталентаваны Чу-Эн-Ляй, ведамы майстра палітычнай інтрыгі і ці не найбольшы крывадушнік нашага часу, ужо ня раз быў у цэнтры сьветнай увагі. Апошні раз былі на яго зьвернутыя вочы сьвету ў сувязі з падарожжай у Пэкін генэральнага сакратара Задзіночаных Нацыяў Дага Гамершыльда зімою сёлета.

Таму да рэчы было-б бліжэй прыглядзіцца да асобы Чу-Эн-Ляя, скарыстаўшы з таго, што амэрыканскі «Тайм» даў пару месяцаў таму досыць дакладную біяграфію і характарыстыку гэтай няштодзеннай асобы.

З тэй жменькі бліскучых і жорсткіх людзей, што калісьці ў падпольлі выпрацавалі схэму сучаснай структуры Кітаю, ніводзін не працаваў гэтак заўзята і ўпорыста, як Чу-Эн-Ляй. Дзед яго быў кітайскім мандарынам і належыў да высокай кіруючай бюракрацыі, і Чу нарадзіўся ў умовах дабрабыту й культуры. Бацькі аддалі яго ў школу заходняга тыпу, дзе ягоным школьным сябрам быў былы губэрнатар Фармозы К. С. Ву, які перабывае цяпер у ЗША.

Ву расказвае, што Чу-Эн-Ляй быў адным з таленавіцейшых вучняў школы і вельмі добрым актарам. Маючы тонкія рысы аблічча й далікатную тонкую скуру, ён заўсёды выконваў у тэатральных п'есах жаночыя ролі. Сустрэўшы Чу-Эн-Ляя цераз якіхсьці 23 гады, Ву заценіў, што ён вельмі зьмяніўся: вочы ягоныя зрабіліся халодныя й суровыя, ён выглядаў на чалавека, які можа забіваць. «І ён такі ўзапраўды забіваў людзей собскімі рукамі», — сьветчыць Ву.

Чу-Эн-Ляй вучыўся ў унівэрсытэце ў Тсентсіне і там прылучыўся да рэвалюцыйнага руху. Арыштаваны ў 1919 годзе, як кіраўнік дэманстрацыі супраць Вэрсальскага дагавору, ён папаў у турму, дзе пазнаёміўся з рэвалюцыянэркай Танг Інгчао і пазьней ажаніўся зь ёю. Цяпер гэтая мітусьлівая жанчына ёсьць сябрам Цэнтральнага Камітэту Партыі й кіруе вялікай жаноцкай фэдэрацыяй.

Выйшаўшы з турмы, Чу-Эн-Ляй даведаўся, што бібліятэкар пэкінскага ўнівэрсытэту Мао-Тсэ-Тунг набірае групу студэнтаў, каб выслаць іх у Францыю «працаваць і вучыцца». Чу-Эн-Ляй адразу-ж запісаўся на сьпісак і хутка выехаў. Выявілася, што ў Францыі давялося болей працаваць, чымся вучыцца.

Змучаны вычэрпваючай працай у шахтах гораду Ліль, Чу-Эн-Ляй прамяняў кайло на серп і молат, і ў 1921 годзе, калі паўстала кітайская камуністычная партыя, ён арганізаваў ейныя нізавыя асяродкі ў Францыі й Нямеччыне.

У 1923 годзе ён упяршыню паехаў у Маскву і ў наступным годзе вярнуўся ў Кітай, гатовы працаваць для камінтэрну. Кітайскія камуністыя навязалі прыязныя дачыненьні з кароткаэрочным кітайскім кіраўніцтвам, якое не адчула іхных падступных намераў.

Чу-Эн-Ляй, якому было тады 26 год, быў назначаны шэфам палітычнага дэ-...энту вайсковай акадэміі ў Уампоа, ...ады Чан-Кай-Шэк быў камендан-... Незадоўга Чу-Эн-Ляй дастаў ста-...ча палітычнага камісара Чан-Кай-...вай найлепшай арміі.

...охі пазьней Чан-Кай-Шэк выпра-...ву яго ў Шанхай арганізаваць паўстаньне і там прыгатаваць для Чан-Кай-Шэка спрыяльныя абставіны, каб адабраць ад камуністых гэты імі захоплены горад.

З дапамогаю іншых камуністых Чу-Эн-Ляй зарганізаваў з 600 тысячаў работнікаў тэрарыстычныя банды, але для падтрыманьня не гоміндану, але камуністых.

Калі пра гэта даведаўся Чан-Кай-Шэк, ягоная армія наляцела на горад і арыштавала галоўных лідэраў бандаў. Чу-Эн-Ляю пашчасьціла ўцячы за некалькі хвілін перад тым, як мелі над ім выканаць прысуд сьмерці.

Гэты прыгожы ўродаю, часта з усьмешкаю, спакойны на выгляд чалавек ніколі ня спыніўся перад тэрарыстычнымі мэтадамі дзеі. У 1932 годзе адзін зь сяброў камуністычнай партыі, страціўшы сымпатыю да камунізму, прыйшоў да паліцыі і паінфармаваў яе пра існаваньне 30 падпольных камуністычных арганізацыяў, у тым ліку эгзэкуцыйнай групы для вынішчаньня ворагаў камунізму, узначаленай Чу-Эн-Ляем. Пакуль ён быў у паліцыі, Чу-Эн-Ляй зь некалькімі людзьмі зайшоў на ягонае памешканьне, дзе яны выразалі ўсю ягоную сям'ю, уключна з малымі дзецьмі й слугамі — разам 30 асоб.

Гэтыя сцэнічныя асаблівасьці Чу-Эн-Ляя мала каму ведамыя. Сьвет болей абзнаёмлены зь ягоным умельствам снаваць інтрыгі, ствараць камплікацыі, зраджваць прыяцеляў.

На пачатку ён быў (праўдзівей паказваў зь сябе) прыбочнікам камуністычнага лідэра Лі-Лісана, але з часам прыстаў да цямнейшай асобы — Мао-Тсэ-Тунга. Перайшоўшы ў свой час вайсковае вышкаленьне ў Уампоа, ён кіраваў разам з Мао-Тсэ-Тунгам сялянскай арміяй і дапамог яму налажыць зялезную вуздэчку дысцыпліны на 3.500.000 квадратных міляў кітайскай тэрыторыі.

Ён служыў камунізму ня толькі сваімі фаховымі ведамі, а й сваім вынятковым спрытам і выпрактыкаваным аблудным языком.

У 1936 годзе, калі Чан-Кай-Шэк быў вельмі блізка да выкараненьня камунізму ў Кітаі, Чу-Эн-Ляй пераканаў маладога мэршала Чана-Тсу-Энлянга пе-[illegible] сваёй 150-тысячнай арміяй да камуністых. Пазьней ён намовіў гэтага маршала выкрасьці Чан-Кай-Шэка і, удаючы, быццам ён да гэтага ня прычынны, пачаў весьці перагаворы аб звальненьні Чан-Кай-Шэка пад умовай зьліцьця нацыяналістых з камуністымі, што, як потым выявілася, было фатальным для нацыяналістых.

На працягу далейшых 9 год Чу-Эн-Ляй жыве ціха й вельмі скромна і вядзе тонкую й подлую ігру. Нязвычайна подлы, лагодны і навонкі парадачны, ён зьяўляецца зьвязным між камуністымі, нацыяналістымі і рэпрэзэнтантамі заходніх дзяржаваў у сталіцы Чан-Кай-Шэка. Красамоўна, вельмі дыскрэтна і дыпляматычна ён пераконвае заходніх журналістых, вайскавікоў і дыпляматаў у добрых намерах кітайскіх камуністых, якім, быццам, далёка больш залежыць на інтарэсах свайго народу, чымся на завядзеньні камуністычнай ідэялёгіі.

Ягонае нязвычайнае выхаваньне, ягонае ўменьне — рэдкае між кітайскімі камуністымі — свабодна гаварыць францускай і ангельскай мовай, ягонае знаёмства зь Лёнданам, Парыжам і Бэрлінам імпанавалі ягоным субяседнікам. Прыемна ўражала й ягоная скромнасьць і безінтэрэсоўнасьць. у краіне, дзе ўсё было прадажным.

Чу-Эн-Ляй умеў, калі трэба было, і заплакаць, што ён двойчы зрабіў падчас перагавораў зь генэралам Маршалам. Адзін раз генэрал Маршал спытаўся яго, ці быў ён калісьці ў Маскве. «Не», — схлусіў Чу, гледзячы Маршалу проста ў вочы. Пазьней кантроля выявіла, што 90% вайсковых рапартаў Маршалу былі непраўдзівыя. А тымчасам Маршал уважаў яго сваім блізкім прыяцелем і быў пэўны, што можна пакладацца на ягонае слова.

Ён-жа пазьней выдумаў і пашырыў нахабную й абсурдальную брахню пра бактэрыйныя спосабы вайны Амэрыканцаў у Карэі і схвабрыкаваў «прызнаньне» амэрыканскіх лётнікаў. Ягоная здагадлівасьць і подласьць узапраўды годная падзіўленьня.

Гэтак, лгарствам і подступам, здрадаю й ашуканствам ён дасягнуў сваю мэту — стаўся адным з галоўных арганізатараў цяперашняй кітайскай камуністычнай дзяржавы, а цяпер ёсьць галоўным прапагандыстым у дачыненьнях зь некамуністычным сьветам.

Дзе падзеліся ягоная калішняя скромнасьць і ўдаваная пакорлівасьць? Адчуваючы цьвёрды грунт пад нагамі, ён гаворыць поўным голасам, і вымаганьні ягоныя, калі ён уважае за патрэбнае іх ставіць — неадхільныя.

Нядаўна ён рэпрэзэнтаваў сваю магутную дзяржаву на Жэнэўскай канфэрэнцыі (у індакітайскай справе) і спрактыкаванай рукою кіраваў перабегам яе ў крытычныя мамэнты. Ягоныя вышуканыя манеры, ягоная элегантная

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Шостая калёна

Калі ў часе грамадзянскае вайны ў Гішпаніі армія Франко наступала чатырмя калёнамі на Мадрыд, дык у самым горадзе прыхільнікі Франко, творачы быццам пятую падзямельную калёну, аказалі яму значную дапамогу. З таго часу зварот «пятая калёна» пашырыўся, і ім абазначаюць нутраную апазыцыю, якая сымпатызуе й дапамагае вонкаваму ворагу.

Перад пачаткам апошняй сусьветнай вайны пра пятую **фашыстоўскую** калёну Гітлера гаварылася ня менш, а то й больш, чымся пра пятую **камуністычную** калёну. Аднак-жа ад часу ўпадку апошняга, калі гаворыцца пра пятую калёну, дык бадай заўсёды маецца наўвеце калёну камуністычную.

Пятая калёна Масквы ў краінах вольнага сьвету складаецца сяньня з камуністых, што афіцыяльна належаць да партыі, з замаскаваных камуністых там, дзе гэтая партыя забараняецца, ды з шматлікіх сымпатыкоў камунізму ці проста апазыцыянэраў існуючага ладу, якія нярэдка й самі ня ведаюць, што сваёй дзейнасьцяй і прапагандай яны працуюць на карысьць Масквы.

Аднак да асобнай катэгорыі трэба залічаць тых людзей, якія не зьяўляючыся ні выразнымі сымпатыкамі камунізму, ні таксама апазыцыянэрамі ладу ў іхных краінах, прыносяць аднак сваёй дзейнасьцяй карысьць камунізму, а фактычна Маскве. Гэта — заходнія журналісты. Праўда, ня ўсе, але з упэўненасьцяй можна сказаць, што значная колькасьць іх, калі не бальшыня. Несправядліва й крыўдна было-б іх прыраўноўваць ды залічаць да пятае калёны, а таму дамо ім асобны тэрмін: **«Шостая калёна».**

Гэта сваеасаблівая «калёна». Не з-за ідэялягічных меркаваньняў ейныя прыналежнікі ліюць ваду на савецкае кола. Робяць яны гэта хутчэй, скажам, «по простоте душевной», каб ня ўжываць такіх словаў, як ігнаранцтва й дурнота. Пры гэтым не малую ролю адыгрывае й матар'яльны фактар. Вядома-ж, што ўся заходняя прэса, за выняткам рэлігійных, чыста партыйных і арганізацыйных органаў, пабудаваная на прынцыпе даходных прадпрыемстваў. Собсьнік такога прадпрыемства, імкнучыся мець як найбольш даходу, стараецца перадусім пабольшыць колькасьць кліентаў і пашырыць рынак збыту. Каб-жа гэты рынак здабыць, ён мусіць старацца прадукаваць тое, што найбольш адказвае смаку й спадобе гэтай кліянтэлі. Гэтак і выдавец газэты, калі хоча мець як найбольшы даход, пачынае лічыцца із спадобай і імкненьнямі сваіх чытачоў. Сяньня-ж чытачамі газэты зьяўляюцца ўжо не адзінкі, а даслоўна масы. А чым-жа масы можна найлягчэй зацікавіць? Ясна — сэнсацыяй. І то да гэтага, сэнсацыяй прыемнай. Пры гэтым, гэтыя спэцы ведаюць, што чытач ня будзе аналізаваць і даходзіць да праўдзівасьці падаваных вестак: яму лепш прыемная надзея, чымся горкая рэальнасьць і праўда; прыямней прачытаць, што загроза камунізму й вайны адыйшла ў нябыт, чымся даведацца, што яна й надалей існуе, пакуль існуюць два варожыя сьветы.

Калі савецкая дэлегацыя ехала ў Жэнэву, дык яна ведала, што там знойдзе надзейных саюзьнікаў якраз у асобах заходніх пісакаў. Хапіла Хрушчову ўсьміхнуцца, Булганіну памахаць ветліва да натоўпу, а Жукаву пашаптацца з Айзэнгаўэрам, як, пачынаючы ад бруковых шматтыражных дзёньнікаў і канчаючы нярэдка паважнымі газэтамі, усе данасілі сваім чытачом аб пачатку новай эры ў вадносінах з Саветамі, аб тым, што вайна замянілася на цёплы мір і згоду.

Ня важна, што думаюць заходнія адказныя галовы, найважнейшае — каб масы, з апініяй якіх гэтыя галовы якні-як, а павінны лічыцца, паверылі ў гэтую зьмену. А Саветам нічога больш і ня трэба: за час «перадышкі» ім трэба перадусім справіцца з нутранымі цяжкасьцямі, а пасьля пабачыцца, хто да каго будзе ўсьміхацца. У міжчасе-ж можна запрасіць заходніх дыпляматаў на сяброўскую «party» ў пышнай падмаскоўскай дачы: віна, гарэлкі й закусак хопіць, а прысутныя-ж заходнія журналісты з удзячнасьці да гаспадароў не забудуцца аб гэтым паведаміць сваіх чытачоў, дадаючы адпаведныя камэнтары й «вывады» аб пачатку вялікай дружбы між двума сьветамі. Якімі-б фантастычнымі гэтыя камэнтары ня былі, усёадно заходні чытач ім паверыць, бо, як ужо зазначалася, лепш хоць крыху надзеі, чымся горкая праўда.

І што-ж у выніку? Зь кім сяньня ні пагаворыш, ад простага работніка й да прафэсара, кажны стараецца давесьці, што мы, эмігранты, мыляемся, што Саветы ад часу Жэнэўскай канфэрэнцыі запраўды зьмяніліся, што яны ймкнуцца да шчырага супрацоўніцтва з Захадам, што яны ўжо пакінулі думку аб вайне. «Вось бачыце, яны навет пачынаюць дэмабілізаваць армію, гатовыя на разбраеньне, працягваць нам сяброўскую руку!» — з захапленьнем выкрыквае такі «інтэлігентны» інтэлігент.

Гэтак падрыхтаваная «шасьцікалёньнікамі» грамадзкая апінія Захаду пачынае рабіць свае далейшыя вывады: спыніць усякае ўзбраеньне ці нат пачынаць разбройвацца, спыніць антыкамуністычную прапаганду, каб не нэрваваць дарагіх крэмлёўскіх прыяцеляў і г. д., і г. д.

Небясьпека такога на пачатку хоць-бы сабе толькі псыхалягічнага, разбраеньня Захаду й дэзарыентацыі грамадзкае апініі пабольшваецца. Можна навет дазволіць сабе на цьверджаньне, што тое, чаго Саветы не дасягнулі пры дапамозе свае пятае калёны, яны пачынаюць дасягваць дзякуючы «шостай калёне» — заходнім пісакам. І гэта зусім зразумела. Камуністычныя партыі заходніх краінаў апошнімі часамі страцілі шмат на сваёй папулярнасьці. Іхная даволі слабая прэса чытаецца толькі ў вабмежаваным коле партыйцаў ці сымпатыкаў. Незалежныя-ж газэты, дзе папісваюцца сваім спрытам у насьвятленьні сучасных праблемаў ды ў прарочаньні будучых адносінаў экспэрты шостае калёны, ідуць у шырокія масы. Іхны ўплыў адыгрывае калясальную ролю ў дэзарыентацыі заходняга грамадзтва. А гэткая дэзарыентацыя — мэта бальшавікоў. Дык... ці-ж ня шостая калёна?

**А. Галубіцкі**

# Савецкае людалоўства сярод эмігрантаў — важны фронт «халоднае вайны»

**АД РЭДАКЦЫІ: Ніжэй перадрукоўваем за газэтай «Українські Вісті» ў скарачэньні артыкул Чарлса Тэйнэра, у якім, на рэдкасьць сярод заходніх журналістых, даецца правільная ацэна ролі палітычных эміграцыяў з Усходу ў халоднай вайне, а так-жа іхнае небясьпекі для камуністычнае агрэсыўнае палітыкі. Выходным пунктам для аўтаравых разважаньняў быў нямецкі судовы працэс у Мюнхэне супраць савецкай агенткі Альжбеты Ключэўскай-Райнгольд, якая, на загад МВД, намагалася намовіць Дырэктара мюнхэнскага Інстытуту для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР, Б. Якаўлева вярнуцца да сваей сям'і ў Маскву. Пасьля апісаньня ходу працэсу супраць Ключэўскай, аўтар далей разважае:**

«Працэс Альжбеты Ключэўскай не зьвярнуў на сябе шмат увагі — адзіндва радкі ў газэтах і колькі словаў у радыяперадачах. Але гэты працэс ёсьць яркім прыкладам сьветнай кампаніі, арганізаванай Крэмлём, сьціраванай на тое, каб пазбавіць Захад ягоных найлепшых саюзьнікаў у халоднай вайне. Гэтая ‚рэдэфэкцыя', як называюць афіцыйна гэтую кампанію, прымушае паважна задумацца заходніх стратэгаў халоднай вайны. У вадным амэрыканскім рапарце гаворыцца: „Рэдэфэкцыя на столькі завайстрылася, што пагражае стацца сур'ёзным дзейнікам у палітычным змаганьні». На працягу некалькіх месяцаў стурбаваныя экспэрты лётаюць туды й назад між Вашынгтонам, Парыжам. Боннам і Мюнхэнам, намагаючыся вызначыць значэньне гэтай кампаніі, адгадаць яе наступны крок і знайсьці спосабы супрацьдзеяньня.

Цяпер Саветы хапіліся адкрытых заходаў у вядзеньні гэтай кампаніі зруйнаваньня эміграцыі і абвесьцілі стварэньне ў Бэрліне «Камітэту для павароту на бацькаўшчыну», узначаленага выдатным савецкім генэралам. Гэты камітэт якраз цяпер выпускае сваю газэтку, якую рассылае па пошце да сотняў савецкіх уцекачоў на Захадзе. У гэзэце зьмешчаны хітра зложаны заклік да ўсіх савецкіх грамадзян заграніцай вяртацца дамоў. Там гаворыцца, што ў СССР «вітаюць» паварот навет тых, што змагаліся супраць яго ў часе вайны, не зважаючы на ўсе іхныя «злачынствы». На апошняй бачыне памешчаныя апісаньні жыцьця ў лягерах уцекачоў на Захадзе, апісаньні, якія ёсьць досыць праўдзівыя, каб адпаведна ўплынуць на жыхароў гэтых лягераў, і досыць умелыя, каб ня змусіць іх сур'ёзна над гэтым не падумаць. Эміграцыйныя правадыры й Амэрыканцы, што зь імі супрацоўнічаюць, вельмі заклапочаныя эфэктам гэтае прапаганды і выдалі цэлы рад супрацьдзеючых матарыялаў, якія, як яны спадзяюцца, раскрываюць запраўдны характар заклікаў бэрлінскага камітэту.

На жаль, ня кажная савецкая спроба адсунуць з поля дзейнасьці актыўнага антыкамуністага заканчваецца пасаджэньнем чырвонага агента на лаву падсудных. Шмат выдатных эмігрантаў, дзякуючы камуністычным лоўбам, ужо апынулася за зялезнай заслонай, іх выкралі або забралі якімсьці іншым шляхам. У 1949 годзе Багуміл Лаўзман, былы заступнік прэм'ер-міністра Чэхаславаччыны, уцёк на Захад і адзінока пасяліўся ў Зальцбургу. Цераз чатыры гады аднэй ночы ён раптам зьнік. Ягоная гаспадыня была знойдзеная напоўп'яная, а ў ейным пакоі была бутэлька гарэлкі і дзьве шклянкі. Нідзе ня было відаць ніякіх сьлядоў змаганьня і ўсе рэчы Лаўзмана, уключна з грашмі й асабістымі паперамі, былі на месцы. Цераз некалькі тыдняў Лаўзманаў голас быў чуваць з праскай радыястанцыі, дзе ён заяўляў, што ён вярнуўся дамоў дабравольна. На працягу некалькіх месяцаў пасьля павароту былага заступніка прэм'ер-міністра на ўсе лады выкарыстоўвала галасьлівая чэская прапаганда і шмат людзей на Захадзе верыла, што ён узапраўды дабравольна вярнуўся на бацькаўшчыну. Але некалькі месяцаў таму ў рукі Амэрыканцаў трапілі довады, што Лаўзман быў хітрыкамі заманены ў аўта й вывезены ў савецкую зону. Довад гэты зьявіўся ў васобе самога савецкага агента, які арганізаваў гэтае выкрадзеньне, а пазьней сам уцёк на Захад.

Нядаўна гаспадыня аднаго будынку ў Мюнхэне, дзе жыве шмат уцекачоў, прыбірала пакой, які яна, незадоўга перад гэтым, наняла нядаўна прыбыламу расейскаму ўцекачу із усходняй зоны, які называў сябе Ізмаілавам. Замятаючы пад канапаю, яна пабачыла труп, на якім былі порткі Ізмаілава. Паліцыя сканстатавала, што ахвяра была задурманеная, зьвязаная, задушаная і малатком была прабітая скронь. Цела шыб-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

Куток мовы

# Некалькі слоў выясьненьняў

Найперш крышачку пра тое, што ўжо надрукавана ў маіх зацемках у «Кутку мовы». У № 28/258 «Бацькаўшчыны» пад «Некаторыя хормы», у вадным месцу ёсьць «чытач«, а мае быць **чытар.**

У № 27/257 «Бацькаўшчыны» я, між іншага, падаў словы **завалкі, жарлівы,** запісаныя ў Вялейскім пав. Гэтыя-ж словы з тым-жа значэньнем, але з націскам у вабодвых на першым складзе (дык **жэрлівы),** падаець із Віцебшчыны Касьпяровіч у сваім слоўніку.

На зацемку сп. С. Ясеня пра назоў Задзіночаных Гаспадарстваў у № 27/257 «Бацькаўшчыны» адкажу тады, калі буду пісаць пра **гаспадарства.**

А цяпер разгледжу зацемку «Тут справа ня юсаў» сп. В. Мікалаені (№ 28/258 «Бацькаўшчыны»). Цешуся, што ён уважна чытае мае пісаньні.

Песьня з прыпеўкаю «Хрыстос ускрос, Сын Божы!», ведама, валачэбная, а не калядка. У мяне там лучыўся моўны ляпсус. Калядкамі або калянымі песьнямі ўсе мы завем песьні, што пяюць калянай парою.

Да **другадзень.** Што ў Летувісаў усе рабочыя дні маюць назовы, складзеныя з адпаведнага лічніка і слова «дзень» (у яго летувіскай хорме), ані не перашкаджае таму, што слова «другадзень» вылучна беларускага тварэньня. Ані Летувісы, ані ніхто іншы нам яго тварыць не памагалі. А што да таго, што замена ў літаратурнай мове аднаго слова другім, узядзеным із народнае мовы, можа ствараць даймо неўстаноўленасьці слоўніка, дык, першае, важна не даймо, а факт; другое, такая замена сьветчыць, што маем багаты слоўнік (як запраўды і ёсьць) і з колькіх словаў таго самога значэньня можам выбіраць лепшае.

Сп. Мікалаеня сьпяшаецца закансэрваваць нашую літаратурную мову; усё, што ў ёй ёсьць добрае й благое, хоча прызнаць за добрае, паставіць пячатку і ані зь месца далей. Тым-жа часам ні ў якой жыцьцёвай зьяве гэтак ня робяць, і пагатове ня ставяцца так да моваў, нат старых літаратурных моваў, а нашая літаратурная мова належа да маладых і, як такая, шмат болей патрабуе жывога кантакту з мовай народнай. Ня боймася таго, што пра нас падумаюць, але сьцеражэмася, каб у нас ліха ня было. Ня страшныя тыя або іншыя заганы літаратурнае мовы, калі іх папраўляем матар'ялам із народнае мовы, але небясьпечна ўважаць благое за добрае, бо ад гэтага яно лепшым ня станецца і набярецца благосьці толькі, што ад яго не ацярэбішся, і яно будзе пагражаць сьмерцю.

Гэта наагул. А што да «другадня» й «аўторка», дык я заняў становішча вельмі мяккое, кажучы, што «другадню», як свайму вылучнаму твору, трэба аддаць пяршынство перад «аўторкам». Думаючы так, я згадзіўся зь вялікай часьцяй свайго народу, часьцяй у даным прыпадку дзейнай, бо творчай. Тварэньне-ж зьявілася не бяз дай прычыны, як здаецца сп. Мікалаеню, а дзеля таго, што «аўторак» па шчэзьненьню слова «утары», казаў той, ягонага бацькі й сябры, апынулася сярод чужога таварыства; прымеж таго «другі» і «дзень» мы абярняся ўжываем. Вось дзеля чаго нельга спадзявацца, што, як думае сп. Мікалаеня, можа ўзьнікнуць новае слова, замест «серада» або іншых назоваў дзён каторыя (назовы) ў сваёй гістарычнай дарозе не пагубілялі сваіх найбліжшых сяброў.

Да **закраса.** Я паставіў знак роўнасьці паміж белар. словам «закраса» і рас. «заправа» ў тым значаньню, у якім гэтае было ўжыта. Каб чытар не патрабаваў разьбірацца ў мносьцьве значэньняў і з гэтае прычыны не даволі зьвярнуў увагу на разгляданае значэньне, я ў сваіх моўных артыкулах у «Кутку мовы», маю наўвеце толькі тое значэньне барбарызму, з каторым ён у даным прыпадку ўжыты. Часамі, адылі, можа здарыцца няяснасьць, як гэта сталася ў прыпадку, на каторы зьвярнуў увагу сп. Мікалаеня.

Слова «закраса» мною выясьнена, між іншага, у «Некаторыя групы словаў беларускае мовы» («Бацькаўшчына», 1952 г., № 36—37/115—116), дзе кажацца: **«Закраса** — гэта ўсё тое, чым можна палепшыць, **закрасіць** страву; сюды належаць розныя **тукі** (сала, лой, масла, сьмятана, алей)». Мне ня ведама, каб малако звалі закрасаю, як думае Мікалаеня. Малако будзе **забел** або **забела, забелка.** І сьмятана болей належа да забелы, чымся да закрасы. Дадам, што **затаўка** — гэта расьцертае й укіненае ў гаршок стравы сала з нутраных часьцяў сьвінчаці.

Перац, соль, цынамон, бабковы ліст і пад. — **прыправа.**

Узьнікае пытаньне, як завуць тыя рэчы, парас. званыя таксама «заправай», каторыя дабаўляюць да асноўнага матар'ялу дзеля яго палепшаньня, прыкладам пры мураваньню, і каторых роля там тая самая, што закрасы ў страве? Мо на гэтае пытаньне нам адказалі-б беларускія муляры?

**Сытны.** Сп. Мікалаеня кажа: «Вельмі магчыма, што слова „пажыўны" гэта полёнізм, хаця Станкевіч ня лічыў патрэбным свайго цьверджаньня абаснаваць». Але! Калі патрэба замены аднаго слова другім, здаецца мне ясная, я, дзеля ашчаднасьці месца, выясьненьня не раблю. Але, ведама, што аднаму можа здавацца ясным, тое ў некаторых прыпадках каму іншаму можа ня быць яснае. Адлі Мікалаеня піша: «У самым гучэньні слова («пажыўны») ня вычуваецца ўплыву польскае мовы» Сусім праўда. Адылі, не адно тыя барбарызмы, пра каторыя сьветчаць іх фанэтыка або суфікс, але й тыя, што гэтых пазнакаў ня маюць, але проста ня ўвайшлі ў склад якоесь мовы. Гэтак ёсьць і з «пажыўны». Тут маем тую самую зьяву, што і ў іншых галінах жыцьця: ня ўсё тое, што можа быць, быць мусіць. Прыкладам: кажны грамадзянін Задзіночаных Гаспадарстваў можа быць абраны за іхнага прэзыдэнта, але ня кажнага абіраюць, нат із двух, аднолькава годных, аднаго могуць быбраць, а другога не.

Мікалаеня станаўко не згаджаецца зы мною, што блр. «сытны» знача тое самае, што пол. «пожывны». Ён гэтак даводзе: «Слова „сытны" ўжываецца для абазначэньня ўласьцівасьці нейкай ежы... выклікаць пачуцьцё насычэньня», каторае «зьяўляецца аднак усяго толькі суб'ектыўным адчуваньнем нейкай асобы; азначае, што даная асоба адчувае пачуцьцё супроцьлежнае пачуцьцю голаду». Гэтае пачуцьцё «нічога не гаворыць, што ў рэчах, каторыя яго выклікалі, знаходзяцца складовыя часткі, патрэбныя для жыцьця арганізму ў дастаткова вялікай канцэнтрацыі і ў форме, здольнай да прысваеньня арганізмам». Хто-ж гэта даведаўся? Хто даведаўся, што ў еміне ёсьць бялок, тук, цукяр, вітаміны зялеза і інш.? Адкрылі гэта толькі хімікі. Значыцца, паводля Мікалаені, да іхнага адкрыцьця народы ня мелі пайма, абзначанага словамі рас. «питательный», пол. «pożywny», анг. «nourishing», ням. «nahrhaft» і г. д. Гістарычна можна давесьці, што такое паймо і словы яго абазначаючыя былі. Калі-б якія народы чакалі із сваймі словамі да такіх і падобных адкрыцьцяў, дык ня было-б у іх ані такіх словаў, ані мовы наагул.

Менаванае паймо і азначаючыя яго ў розных народаў словы паўсталі такім парадкам, што людзі раўнавалі якасьці аднае еміны да якасьцяў еміны другое. Яны бачылі, што адныя еміны, прыкладам бульбы, зьясі шмат, каб пад'есьці, і ня доўга будзеш пад'еўшы; другое, прыкладам, мяса, яец, малой колькасьцяй пад'ясі і доўга будзеш пад'еўшы. Гэтую другую еміну і сталі зваць Палякі «пожывна», іншыя ўзноў пасвойму, а Беларусы «сытнай», маючай сытніню.

Сп. Мікалаеня ня ставіць сваіх «хімічных» вымаганьняў да значэньня пол. «пожывны», ані да іншых чужых словаў таго-ж значэньня, дарма што яны ані ня мудрэйшыя навукова за беларускае «сытны». Ён бязь «хіміі» згаджаецца з прынятым значэньням пол. «пожывны». Такія неаднокалькавыя дачыненьні да сваіх і чужых нацыянальных вартасьцяў із недацаньваньнем сваіх характарыстычныя для камплексу нацыянальнае ніжшыні.

Слова «сытны» ёсьцека таксама ў мове польскай і расейскай із тым-жа значэньнем польскага «пожывны»*, але яно ў іх рэдка ўжываецца, ня ёсьць словам нармальна ўжываным і ня вылучана, што яго пераняля з мовы беларускае. Апрача таго, у мове расейскай «сытны» мае й іншыя значэньні, між іншага, сытная яда парас. бывае ня толькі дзеля свае якасьці, але й дзеля колькасьці (прыкладам Даль прыводзе пад **сыта:** «Где дно тарелки видно, там кушанье не сытно»). Калі-б Мікалаеня ведаў, што «сытны» ёсьць таксама ў польскай і расейскай мовах, дык ён ня ставіў-бы да яго свайго «хімічнага» вымаганьня. Вось што знача быць у «старшых братоў»!

Ведама, завучы некаторыя еміны й кормы паблр. «сытнымі», папол. «пожывнымі» і г. д., людзі азначаюць іх болей-меней суб'ектыўна, а навуковае сьцьверджаньне праўдзівасьці гэтых азначэньняў у дачыненьню да кажнае асобнае еміны належа ўжо не да навукі мовы, але да хіміі й мэдыцыны.

Слова «сытны» ў значаньню пол. «пожывны», рас. «питательный» запісана, між іншага, мною ў Крэўскай вол. Ашмянск. пав.

Сынонімам «сытнага» ёсьць у блр. мове словы **трывалы, трывалкі,** каторыя, апрача значэньня рас. «прочный» і «выносливый», маюць і значэньне рас. «питательный». Прыклад із слоўніка Касьпяровічава: **трывалы — питательный.** Ганькавічы Бешанковіцкага раёну. Гарохавы або бабовы блін больш трывалкі за аўсяны (там-жа). У Ашмянскім павеце адна жанчына гэтак выясьняла свайму сыну пастушку якасьці пашы: На санажаці (мурожнай) трава сытная каровам, як сьмятана чалавеку. На папары трава трывалкая, трава на папары каровам, як верашчака людзём. Знач., трывалкі (націск на -кі) абазначае большую ступень сытніні, чымся «сытны»; трывалкая яда тая, каторай пад'еўшы будзеш даўжэй трываць, ня хочучы есьці, чымся, гэта бывае пры іншай сытнай ядзе.

Зацемлю, што белр. слова **сытны** адказуе рас. «жирный», пол. «тлусты»; а блр. **жырны, жыркі** паказуюць, што чалавек або жывёла адзначаюцца добрай ахвотай да яды.

Сп. Мікалаеня кажа, што «прапушчаным (у мяне — Я. С.) мамэнтам (дачыненьня грамадзтва да мовы) «зьяўляецца сьведамая ці нясьведамая тэндэнцыя да прымітывізацыі нашае мовы». Як можна зразумець із кантэксту, гэта «далікатна» тарнуе ён да мяне. Дзякуй за шчырасьць. Прымітыўная мова — гэта бедная мова. Ніхто сам сабе ня судзьдзя, але ўсе-ж такі крыху сам я разумеюся на мове і іншыя — ня хімікі, але мавазнаўцы — прызнаюць, што мова мая — багатая і напэўна багатшая за мову тых, каму яна не падабаецца.

**НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА БЕЛАРУСА НА ЧУЖЫНЕ, ЯКІ-Б НЯ БЫЎ ПАДПІШЧЫКАМ, ЧЫТАЧОМ І ПАШЫРАЛЬНІКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» І ЕЙНЫХ КНІЖНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ!**

Пра прыклад Мікалаеняў із дарагім каменьнем не гавару, ён мог-бы яго захаваць дзеля лепшага ўжытку.

У сваіх моўнных артыкулах я часта адзначаю, дзе слова або хорма запісана. Патрэбна гэта як з гледзішча навуковага, так і практычнага, каб нашыя злосьнікі ня шырылі хвальшывага пагляду пра штучнае выдумляньне словаў і каб добрыя людзі ведалі, як сумленна і згодна з мававеднымі вымаганьнямі ў нас праца робіцца. Каб-жа не займаць у газэце шмат месца падаваньнем поўнага назову мясцовасьці запісу слова, я буду ўжываць скарачэньні, каторых выясьненьні чытар знойдзе ў маёй кніжыцы «Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак фразэолёгічны і прыказкаў», бач. 3-5. Тыя-ж мясцовасьці, што не названыя ў гэтай кніжыцы, буду падаваць болей-меней поўна ў сваіх артыкулах. Ведама, пашырэньне слова не абмежуецца месцам яго запісаў, але звычайна абыймае ўсю Беларусь.

**Я. Станкевіч**

* Гл. Расейска-польскі і Польска-расейскі слоўнікі Багушэвічавы.

# Бракі абутковай хвабрыкі

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

працы прадпрыемстваў у паведамленьні ня прыводзіць. А між тым за гэтымі нічога не гаворачымі працэнтамі захоўваецца ўся дэфэктоўная праца сацыялістычных прадпрыемстваў. Аб гэтым сьветчаць вынікі вытворчасьці Менскай абутковай хвабрыкі, стыль працы якой зьяўляецца ня выключэньнем, а нармальным і на іншых прадпрыемствах.

На савецкіх прадпрыемствах усё падпарадкаванае выкананьню і перавыкананьню плянаў. Аб гэтым гавораць такія лічбы выкананьня пляну на абутковай хвабрыцы. Адзін з цэхаў хвабрыкі па пляну штодзённа павінен выпусьціць у зьмену 450 пар абутку. Гэты цэх у першай дэкадзе траўня выпусьціў 24% месячнага пляну, у другой — 25%, а ў трэцяй аж 51% абутку. Такая арганізацыя працы на прадпрыемстве не дае магчымасьці зьвяртаць увагу на якасьць, асабліва ў трэцяй дэкадзе. Таму большая палавіна абутку мае значныя дэфэкты.

Увесь цяжар ганебнай працы прадпрыемстваў кладзецца на спажыўцоў Савецкага Саюзу. Тое, што прадпрыемствы выплачваюць мільёны рублёў штрафаў, савецкую дзяржаву мала турбуе, ад гэтага няма ніякіх стратаў. Грошы за штрафы перапісваюцца з рахунку дзяржаўнага прадпрыемства на рахунак зноў-жа дзяржаўнай гандлёвай арганізацыі. Разумеецца усялякія перапробкі павялічваюць кошт абутку, але за гэта адказвае сваімі сяродкамі спажывец. Ён пакрывае штрафы высокімі цэнамі за малавартасную прадукцыю. Адсутнасьць канкурэнцыі, прымусовы асартымэнт, ставіць савецкага спажыўца ў залежнасьць ад эксплёататарскай палітыкі савецкай дзяржавы.

**В. Б.**

III

У хутарскай адзіноце Галена нарадзіла сына. У той самы дзень Бушмараў брат ледзьве ўсьпеў прывязьці сваю жонку. А праз які дзень Галена пачала брацца за работу. Братава жонка паехала. Гэтае Бушмаравае радні Галена ня любіла.

Бушмараў сын удаўся ўвесь у матку. Бацькаўскі быў толькі колер вачэй. Гэта гаварылі ўсе, хто бачыў яго. А паглядзець на малога падыходзілі людзі пад Галену, калі яна выносіла яго ў лес і за лес. Яна несла яго скрозь паўзь сьцяну лесу, думала толькі пра яго і гэтым адцягвала непатрэбны клопат свой ад непазбыўнага бязладзьдзя ў хаце. Бо як ты ні глядзі і ні клапаціся, аднымі рукамі нічога не парадзіш. Як яна спачатку ні разрывалася за работаю і клопатам, усёраўна ня ўтрымала парадку. Усё было недагледжана, параськідана. І яна прыняла гэта зь лёгкім сэрцам. У яе зьяўляцца пачала нуда па людзях, таму яе гэтак часта і цягнула за лес. А тады якраз адбыліся вялікія зьмены навокал. Бушмару пакінулі толькі сялібу і зямлі па норме на душу. На гэты бок лесу было ўжо калектыўнае поле. Яно ціснула сялібу няміласэрна. Тады Галена першы раз за ўвесь час напісала Бушмару праўду пра гаспадарку.

У тыя часы Вінцэнты трапятаўся, як падсмалены. Мусіць дапякло яму добра, калі ня цураўся ўзяць на сынаву шыю Бушмарава дзіцянё. Але пасьля апошняга таго прыходу да Галены ён асеў, як зьнясілены. Ён толькі шаптацца пачаў зь людзьмі і охкаць.

Тады была трэцяя восень, як адышла Аміля з хутару. Пра Амілю Бушмар ніколі не гаварыў Галене, яна й не дапытвалася, ведала толькі тое, што пачула была тады на Бушмаравым судзе.

Нясучы малога паўзь лес, яна бачыла людзей на полі. На яе прыглядаліся здалёк, як-бы ненарокам падыходзілі бліжэй. Яна сама пайшла да ўсіх. Дзіцянё разглядалі доўга, спачувалі, што яна адна зь ім. Галена пагаварыла зь людзьмі і пайшла назад. Гэта было пасьля апошняга здарэньня зь Вінцэнтам. Восень у той дзень прачнулася пагодліваю. Цьвілі паўзь лес верасы, беразьняк увесь зіхацеў ад сонца і лісьця. Лясы дыхалі спакоем, сумная радасьць поўніла іх. У бяздум'і Галена ўвайшла ў лес на сваю дарогу. І тады пачула, што хтосьці даганяў яе. Крокі былі лёгкія і шпаркія. Галена азірнулася. Бегла жанчына. Галена пачакала яе, і от яны сышліся.

— Я пагляджу вашага малога, — сказала жанчына.

Галена ўбачыла сумны спакой незнаёмага твару, нязвычайную шпаркасьць у руках, здэтэнаванасьць.

— Не падобен да Бушмара, — устрапянулася жанчына.

Штосьці яшчэ яна хацела сказаць. Галена заўважыла гэта чакала. Яны пайшлі поплеч — тая першая рушыла праз лес. Галена здагадвацца пачала. Ісьці моўчкі ім было нядобра. Галена спакойна глядзела на дзіцянё і на ўсё, тая была неспакойнаю.

— Вы Аміля? — проста і звычайна сказала Галена.

— Я.

— Хадзем на хутар.

Сказала яна гэта так проста, што Аміля пашла. Ішлі яны паволі, Аміля ўглядавалася ўсё ў дзіцячы твар.

— Ён мог-бы быць падобны да свайго брата...

— Да якога?

— Да майго малога, да другога Бушмаравага сына. Ён якраз мог-бы быць гэтакім ...

Пасьля яна падумала, што Галена магла пакрыўдзіцца за што, і глянула на яе. А тая йшла, як ішла. Толькі як-бы не разумела гаворкі. З-за лесу Аміля пашла назад:

— Не пайду далей. Нядобра мне йсьці туды.

А я даўно хацела вас пабачыць.

Аміля йшла назад шпарчэй. Яна-ж толькі хацела паглядзець на другога Бушмаравага сына, ці не падобен ён да яе сына! Гэта было-б страшна! Тады яна магла-б зьнялюбіць яго. Бо й прыйшоў ён на сьвет праз гэтакія пакуты, якія дарэшты выветрывалі ўсе маладыя імкненьні. Першы-ж сын яе раней браў усю матчыну ласку! Не, яна пароўні дзеліць цяпер гэтую ласку між абодвымі сваімі сынамі! Сынамі сваімі!

Яна гнала ад сябе страшныя думкі.

«А яшчэ тая запрашвае на хутар! На той самы хутар!»

Чамусьці нейкую крыўду раптам пачула яна ў гэтым запрашэньні. Наўмысную зьнявагу да сябе. Навет можа кпіны.

Ня думаючы, Аміля вярнулася. Галена паволі ішла сьцежкаю на іржышчы.

— Я пайду на хутар.

— Добра ... Я-ж прасіла вас.

Галас пазнаў сваю ранейшую гаспадыню, стаў лашчыцца да Амілі.

Вось тое самае месца, дзе яна была калісьці нагнулася завязваць чаравік. Той самы дзядзінец і сад.

Аміля ўвайшла ў хату сьледам за Галенаю.

— Не ўдаліся мне маладыя гады, — сказала Галена.

— А вы думаеце, мне ўдаліся!

Аміля гэта аж крыкнула. Галена здэтэнавалася.

— ... І мне не ўдаліся! Вы-ж тады (я добра заўважыла вас) былі на судзе, вы чулі ўсё, як-жа вы гэта пайшлі за яго? Як вы не пабаяліся! Хіба ня відаць было тады, што гэта за чалавек ! ..

— Мы зь ім жывом пакуль.

Аміля плакала. Дрэннае пачуцьцё да Галены расло ў ёй.

— Дзякуй Богу, што яны не падобны адзін на аднаго.

Хто?

— Дзеці. Я свайго зьнявідзела-б тады.

— За што? Нашто вы гэта говорыце? Вы й на мяне нядобра, як на ворага, глядзіце? А за што? .. Я-ж бачу, што пра Бушмара вы й цяпер думаеце. Які-б ён ні быў, вы на яго не забылія ...

— Забылася ... Ня думаю ...

— Мусіць думаеце, калі гаворыце гэтак, калі адразу не ўцяклі былі тады ад яго, зь першых дзён. Бо ён цяжкі чалавек, інакшым ён ніколі ня будзе.

— А вы-ж жывяце зь ім, не ўцяклі ад яго.

— Я жыву, але каб ён пазьдзекаваўся зь мяне, я і дня ніколі зь ім ня была-б. Бо нашто гэтак жыць ...

— А калі лепш няма як?

— Як гэта няма? На сьвеце ўсякага жыцьця даволі і чалавечае долі шмат.

Аміля панура слухала. Якраз так гаворыць часам брат, калі жонка пачне скардзіцца на долю.

— Чаму-ж ты сам свае добрае долі не знайшоў, а каго дык вучыш? — крыўдзіцца жонка на Андрэя тады.

Андрэй тады гаворыць колькі жорсткіх слоў пра дурную чалавечую нецярплівасьць і пра нуду з гэтакімі людзьмі. І сыходзіць куды-небудзь з хаты.

«Ціхі ён чалавек» — думае тады пра Андрэя Аміля, ня ўмеючы іначай назваць братавае натуры.

IV

Неба было над лясамі сіняе і ціхае. І ціха было ў самых лясох. Восень зрабіла сваё і адпачывала на палянах — там яшчэ зеленілася трава, стаяла вада. Сям-там яшчэ жоўты лісток трымаўся на дрэве, гатовы і зімаваць там ... Гэтае ціхасьці не парушалі і вятры. Яны густа йшлі ў сваю дарогу, дзікаю ласкаю ападаючы на зямлю. Сонца часамі выкрадвалася з-за хмар, але восень, перад скананьнем сваім, любіла хмурнасьць. Гэтак дажывала восень апошнія дні. Туман з рэчкі ці лагчыны, або дым з пастушковага вогнішча калі ўзьнімецца, дык дык нявысока стаіць над зямлёю. І гукі людзкога голасу зьвіняць доўга ў гэтай прасторнай цішыні.

Дарогі былі пустыя.

На дарозе высокая постаць вырасла раз надвечар.

Чалавек сьпяшаў. За плячыма ў яго матлялася пустая торба. Ён толькі на ўзгорку прыпыніўся, адкуль больш відаць было зямлі навокал. І зноў засьпяшаў. Вёску ён абышоў стараною, але яго ўсёроўна ўбачылі. І ўсе гаварыць пачалі пра яго. Яго выгляд псаваў ласкавую радасьць прыроды.

— Бушмар ішоў дадому з вастрогу!

— Сьпяшаў страшна!

— Не адбыў свайго часу, амунісьцыя мусіць нейкая!

**(Далей будзе)**

# Беларускі песенны зборнік М. Куліковіча

Музычнасьць — адна зь яскравых асаблівасьцяў мэнтальнасьці нашага народу. Дзе толькі зьбярэцца невялічкая жменька Беларусаў, тамака заўсёды знойдзецца той, хто больш за ўсіх разумеецца ў тайніцах музычнага мастацтва — і вось ужо паплыла родная мэлёдыя — то пяшчотна-лірычная, то бясьтурботна-жартаўлівая, то поўная віхурнай весялосьці. Вялікай перашкодай у гэтай справе заўсёды была нястача рэпэртуару. Выдавецкімі дасягненьнямі ў гэтай галіне мы, нажаль ня можам пахваліцца. Але ня можам мы абвінавачваць і нашыя выдавецтвы ў інэртнасьці — яны маюць шмат бясспрэчных дасягненьняў у іншай літаратурнай галіне. Справа палягае ў цяжкасьці працэсу нотнага друку, у вялікіх коштах яго, у адсутнасьці патрэбных кваліфікаваных спэцыялістых. Таму тым больш трэба вітаць ініцыятыву Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы, якое выдала «Беларускі Песенны Зборнік».

Кампазытар і музыказнаўца, праф. М. Куліковіч задумаў вялікую і патрэбную справу — прадставіць перад зацікаўленымі коламі беларускага грамадзтва беларускую песьню ўва ўсёй разнастайнасьці ейных відаў і жанраў і, гэтым самым, даць магчымасьць выканаўня роднай песьні аматарам і прафэсыйным харавым калектывам, як у практыцы хатняга музыкаваньня, так і на канцэртнай эстрадзе. У прадбачаных васьмёх выпусках «Беларускага Песеннага Зборніка» аўтар імкнецца ахапіць як народную песьню ўва ўсёй шматграннасьці ейнай сюжэтыкі, так і свае арыгінальныя кампазыцыі на нацыянальна-патрыятычныя, лірычныя, дзіцячыя і іншыя тэмы. Пакуль што выйшлі ў сьвет два выпускі «Зборніка»: выпуск І-ы «Абрадавыя беларускія сьпевы й гульні», і выпуск пяты — «Патрыятычныя беларускія сьпевы для хору».

«Песьня — душа народу» — пачынае аўтар прадмову да першага выпуску. Песьня дапамагае раскрыцьцю і разуменьню душы народу, яна ўва ўсёй сваей жанравай разнастайнасьці (бытавая, абрадавая, вясельная, любоўная, жартаўлівая, скочная песьня) — заўсёды поўная маляўнічасьці, якая прасякае народнае творства, поўная па берагі сардэчнасьці й лірычнасьці. У ёй адбіваецца беларуская прырода, лясы, азёры й рэкі, на тле якіх склаўся характар народу. Яна поўная шырыні, часам нястрыманай вясёласьці, а часам глыбокага суму, адбітак стагодзьдзяў цяжкіх гістарычных выпрабаваньняў. І чым асаблівай містычнасьцю (народна-абрадавыя песьні), бо карэньнямі сваймі яна йдзе ў няўгледную воддаль вякоў. Гэтая містычнасьць праглядвае ў ейнай ладава-інтанацыйнай будове, у ейнай форме, паліфоніі і гарманічнай фактуры.

Першы выпуск «Беларускага Песеннага Зборніка» прысьвечаны беларускім абрадавым песьням і гульням. У яго ўваходзяць калядныя, веснавыя і купальскія песьні ды гульні. Кажны разьдзел аўтар пачынае невялікай прадмовай, у якой растлумачвае паходжаньне і музычны зьмест дадзенага жанру. Некатарыя песьні пададзеныя ў двух варыянтах — для трох ці чатырох-галоснага мяшанага хору. Гульні, якія ўваходзяць у кажны разьдзел, могуць служыць добрым дадаткам для звычайнага вечара-канцэрту, і будуць напэўна з захопленьнем прынятыя нашай моладзьдзю, даючы ёй магчымасьць і на чужыне ўспомніць і аднавіць цудоўныя, старадаўныя беларускія звычаі. Апрацоўка песьняў ня вымагае высокай кваліфікаванасьці выканаўцаў і яны могуць быць выкарыстаныя ў кажнай беларускай групе.

Выпуск пяты, які выйшаў у сьвет раней чарговага другога, зьмяшчае галоўным чынам арыгінальныя кампазыцыі аўтара (для чатырох-галоснага мяшанага хору) нацыянальна-патрыятычнага зьместу, на тэксты Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Дубоўкі, Н. Арсеньневай, і У. Дудзіцкага. Як заўважае аўтар у прадмове да гэтага выпуску, тэматычна-ідэйным матар'ялам гэтых песьняў можна ахапіць галоўныя падзеі нашага палітычнага, культурнага і грамадзкага жыцьця, і яны даюць багаты рэпэртуар для адпаведных урачыстасьцяў. Апрача шырака-ведамых песьняў — «Я ад вас далёка», «Слуцкія ткачыхі», «Пагоня», «Беларусь, наша маці краіна», «О, Беларусь, мая шыпшына» і іншых, якія ўжо даўно карыстаюцца заслужанай папулярнасьцяй, выпуск уключае і рэчы менш ведамыя, якія аднак маюць усе правы на прызнаньне аўдыторыі. У вузенькіх рамках газэтнай рэцэнзіі няма месца гаварыць аб характэрных асаблівасьцях кампазытарскага стылю Куліковіча ды даваць ацэнку тэй ці іншай песьні. Да гэтага пытаньня мы спадзяемся яшчэ вярнуцца у адпаведным артыкуле; заўважым толькі, што імя кампазытара гаворыць за сябе, усе песьні адзначаныя уласьцівым яму майстэрствам, мэлёдыя іх выразная і добра адказвае тэксту, музычная мова простая і лягічная, паліфонія зусім натуральная й нескладаная, гарманічныя камплексы добра падтрымоўваюць мэлядычную лінію і ніколі ня служаць самамэтаю. У будове мэлёдыі кампазытар шырака ўжывае характэрныя для беларускай народнай песьні інтанацыі і ходы. Як тэсытура асобных партыяў, так і агульная фактура песьняў разьлічаныя на абмежаваныя выканаўчымі сяродкамі харавыя калектывы, некатарыя песьні паданыя ў адмыслова спрошчанай рэдакцыі і таму яны бязумоўна могуць быць з посьпехам выкарыстаныя ў нашай музычнай практыцы і ўдала дапамогуць разьвязаньню рэпэртуарнага пытаньня. Недахопы выпускаў выкліканыя з аднаго боку прымітыўнай тэхнікай друку, з другога — недастатковай працай карэктара. Выданьне рататарнае, і гэта, зразумела, вельмі адбіваецца на ягоным вонкавым выглядзе. Глыбокага прызнаньня і пахвалы заслугоўвае Сп. Ул. Дунец, які уклаў заспраўды гэркулесову працу ў працэс напісаньня на матрыцы нотаў і тэкстаў. Але пры такім архаічным спосабе нотнага друку цяжка ўхіліцца ад памылак, і колькасьць іх вельмі значная. Няўдалым здаецца нам назоў І-га выпуску (на 2-ой бачыне), для растлумачэньня якога трэба знайсьці адпаведнае гледзішча, інакш ён для музыканта зьяўляецца і музычная эмблема V-га выпуску — нотная фігура, гучэньне якой цяжка ўявіць.

У V-ым выпуску зусім адсутнічае літара «Э», відаць, гэта віна машынкі, хоць у І-ым выпуску гэтая літара ёсьць. На першай бачыне выпускаў надрукавана «згуртованьне», на другой — «згуртаваньне». Далей сустракаем: Амэрыцы» і «Амерыцы», «Каляды і «Коляды», «батлейка» і «бэтлейка» і гэтак далей*).

У назовах выпускаў лепш было-б падаць «песьні», але ня «сьпевы», бо сам зборнік завецца «песенны». Яшчэ больш колькасныя памылкі ў музычнай мове, асабліва ў І-ым выпуску. Адцемім толькі няправільную расстаноўку нотаў у акордах і на нотных сыстэмах (вып. І, бач. 8, 12, 13, 20, 22, 51, вып. 5-ы, бач. 14, 15), што затрудняе чытаньне нотнага тэксту; адсутнічае дыез (вып. І, бач. 40), ключ (вып. І, бач. 69), тэкст пад нотамі (вып. V, бач. 3); лішні раз паданы тактавы разьмер (вып. І, бач. 22, 51), няправільны рытм (шаснаццатыя паданыя за восьмыя, вып. І, бач. 10). Няпрыемна выглядае і перанос на новы нотны радок толькі аднэй ноты (вып. І, бач. 19, 23, 33). Няўдала распланаваны і друк суправаджэньня фартапіяна, дзе шмат разоў трэба варочаць старонкі назад (вып. І, бач. 22, 39, 47). Ня зусім лягічным нам здаецца таксама і ўніканьне ўжыцьця італьянскіх тэрмінаў, якія перакладзеныя пабеларуску, («allegro» нам здаецца лепш перакласьці «бадзёра», але не «рухава», што больш падходзіць для танцу) і разам з тым, ужываньне такіх італьянскіх тэрмінаў, як rit., ten., fine., якія нідзе не растлумачаныя. Сьпісак заўважаных памылак было-б добра падаць пры канцы кажнага выпуску, або, у горшым выпадку, пры канцы апошняга VIII-га выпуску.

Зразумелая рэч, вялічэзная, шырака задуманая і высока вартасная праца праф. М. Куліковіча заслугоўвае на лепшае друкарскае афармленьне. Але і за тое, што яна выходзіць у сьвет у сваім цяперашнім сьціплым выглядзе, бяручы пад увагу нашыя вельмі абмяжаваныя эміграцкія матарыяльныя магчымасьці, належыцца глыбокая падзяка кампазытару праф. Міколе Куліковічу і ініцыятыўным, энэргічным выдаўцам — Згуртаваньню Беларускае Моладзі ў Амэрыцы.

**Алесь Карповіч**

---

*) Незразумелая фраза ў прадмове да 5-га выпуску: «што тычыцца выканаўня, то тут трэба трымацца ўвагай пададзеных у тэмпах і нюансах». «Жалобны марш» у 5-ым выпуску мае за тэкст верш Янкі Купалы «Зваяваным», але не «Заваяваным» і лепш было-б гэты назоў падаць як загаловак.

# Чу-Эн-Ляй

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

стромкая постаць і тонкія рукі, ягонае маладое ўродлівае чарнабрывае аблічча, ягоная самаапанаванасьць чаравалі дэлегатаў канфэрэнцыі, што, гледзячы на яго, мімаволі забываліся й аб ягоным веку (55 год) і аб ягонай ролі ў жыцьці чалавецтва.

Паводзіны Чу-Эн-Ляя на Жэнэўскай канфэрэнцыі сьветчаць аб тым, што камуністычны Кітай пачуваецца на сілах прэтэндаваць на мала не кіраўнічую ролю ў сьветных справах. Сіла камуністычнага Кітаю базуецца ў васнаўным на задзіночаным і дружным кіраўніцтве камуністых сваёю дзяржаваю. Мао-Тсе-Тунг і ягоныя блізкія супрацоўнікі добра зжыліся за гэтых 30 год супольнай працы. «Чыстак» такіх, як у СССР, у Кітаі ня было ні разу. У гутарцы з адным амэрыканскім журналістым Чу калісьці сказаў: «Не забывайцеся ніколі, што хаця мы, камуністыя, як напасьледак і ўсе людзі, маем часамі разыходжаньні, але калі-б хтосьці спадзяваўся, што мы дазволім гэтым разыходжаньням расшчапаць партыю або разадзіночыць нас, той зрабіў-бы страшную памылку».

Кітайскія камуністыя набралі больш аўтарытэтнасьці ў вачох кітайскага народу, чымся калі-небудзь якаясь іншая цэнтралізаваная ўлада. Камбінаванымі мэтадамі заглады, тэрору, сілы й пераканаўня яны ахапілі сваёю вайсковаю, эканамічнаю й ідэялягічнаю гэгэмонію ўсіх Кітайцаў, да найбяднейшага кулі. Яны не пабаяліся навет парушыць традыцыйную, вякамі ўкарэненую пашану Кітайцаў да сваіх далёкіх і блізкіх продкаў, загадаўшы зраўняць із зямлёю вельмі Кітайцамі шанаваныя магілы іхных памерлых каля кажнага сяла, каб пабольшыць такім чынам урадлівую плошчу.

Камуністычны Кітай сільны і сваей вялікай бояздольнай арміяй, якая налічвае цяпер да 10 мільёнаў уніфармаваных жаўнераў — зь іх 4 мільёны ў рэгулярнай арміі і паветраным флёце, астатыя ў міліцыі і ўзброенай паліцыі. Арміі гэтай шчодра памагае Масква расейскімі грузавымі аўтамі, артылерыяй, самалётамі. Да 100 тысячаў Расейцаў — вайскавікоў, тэхнікаў і палітычных дараднікаў — мятусяцца ў кітайскіх сёлах, у індустрыяльных цэнтрах і на вайсковых базах.

У пачатку расейска-кітайскай дружбы неапёранае кітайскае птушанё сядзела ціха пад пратэкцыйным крылом «старшага брата», але ... часы зьмяняюцца. Зь цікавасьцю прыглядаліся многія заходнія дыпляматы й журналістыя да паводзінаў Чу-Эн-Ляя на многалюдным прыняцьці, якое зарганізаваў для яго Молатаў у Маскве пасьля заканчэньня Жэнэўскай канфэрэнцыі.

Будучы дагэнуль ветлівым да Маленкава й Молатава, Чу-Эн-Ляй дазволіў сабе некалькі разоў войстра зачапіць Мікаяна, Лазара Кагановіча і яшчэ некаторых савецкіх дастойнікаў. Свае прыцінкі пад іхным адрасам ён выказваў у ангельскай мове, ведаючы, што яны яе не разумеюць; пры гэтым ён паясьніў, што не пачуваецца да абавязку перапрасіць за ўжываньне незразумелай для заінтэрасаваных асобаў мовы, бо ніхто з Расейцаў не задаў сабе цяжкасьці навучыцца кітайскай мовы (!). Калі пазьней хтосьці з гасьцей паднёс тост за жанчын, Чу-Эн-Ляй жвава яго падхапіў: «Так, так! Вып'ем за жанчын!» І, аглянуўшыся навакол, дадаў: «Але ... дзе-ж жанчыны?» (на прыняцьці былі дзьве жонкі кітайскіх дыпляматаў і дзьве заходніх — ніводнай Расейкі ня было).

Для чалавека такой тонкай дыпляматычнай школы і такога жыцьцёвага такту, якім ёсьць Чу-Эн-Ляй, ягоныя высказваньні ў Маскве ёсьць вельмі вымоўныя. Акрылены сваімі ўсьпехамі на Жэнэўскай канфэрэнцыі, ён ужо чуўся на сілах **вучыць** Расейцаў, а ня **вучыцца** ў іх, як раней. Зь лёгкай рукі ангельскага лідэра апазыцыі сп. Этлі падарожжы-паломніцтвы да чырвонага Кітаю сталіся ў нашыя дні досыць звычайным зьявішчам. Раней заходнія дзяржаўныя мужы езьдзілі на паклон у Маскву, цяпер езьдзяць яшчэ й да Пэкіну.

Зыгнараваўшы сумнае дасьветчаньне калішняга генэральнага сакратара Задзіночаных Нацыяў Трыгвэ Лі, што, з мэтаю пасярэдніцтва ў «халоднай вайне» між камуністычнымі і некамуністычнымі дзяржавамі, езьдзіў у травені 1950 году ў Маскву і нічога, апрача прыкрасьцяў з аднаго й другога боку, з гэтага падарожжа ня меў, — цяперашні генэральны сакратар ЗН сп. Даг Гамэршыльд пастанавіў быў паехаць у Пэкін для перагавораў з Чу-Эн-Ляем аб звальненьні адзінаццацёх амэрыканскіх лётнікаў, абвінавачаных у шпіянажы, і 2.800 ваеннапалонных розных нацыяў часоў карэйскай войны. І паехаў.

Аднак, пра ход ягоных перагавораў з Чу-Эн-Ляем ды з вынікамі іх сьвет быў паінфармаваны вельмі скупа. Ведама, што гутаркі між Чу-Эн-Ляем і Гамэршыльдам былі пачаліся 7 студзеня і закончыліся 11. Крытычным днём пэртрактацыяў было 9 студзеня, калі гутаркі трывалі звыш 5 гадзін.

Далей прэса паведаміла, што 12 студзеня, прыбыўшы ў паваротнай дарозе ў Гонг-Конг, Гамэршыльд шырака ўсьміхнуўся (быццам задаволены вынікамі сваей місіі?), але сказаў (урэшце зусім правільна), што Гонг-Конг ня ёсьць адпаведным месцам для абгаварваньня гутарак у Пэкіне...

Ня ведама, якія вымаганьні паставіў быў Чу-Эн-Ляй Гамэршыльду. Ці ён дамагаўся дапушчэньня камуністычнага Кітаю да Задзіночаных Нацыяў? Ці, можа, звальненьня тых кітайскіх студэнтаў, што быццам іх затрымліваюць ЗША? А можа навет і вываду 7-га амэрыканскага флёту з вод Фармозы?

Аднак няма сумлеву, што генэральнаму сакратару ЗН давялося пачуць некалькі прыкрых словаў ад войстрага й мсьцівага Чу-Эн-Ляя, і трэба думаць, што шырокая ўсьмешка ягоная ў Гонг-Конгу была толькі выражэньнем задаваленьня, што Кітай, зь ягоным «чырвоным» прэм'ерам, ужо дзесьці ззаду, у туманнай далечыні.

**М. Дэйко**

# УВАГА! УВАГА!

**Выйшла з друку й прадаецца кніга выключнай ідэйнай і мастацкай вартасьці**




**Гэта ёсьць вялікі зборнік выбранай паэзіі найвялікшага нашага нацыянальнага паэты й прарока беларускага адраджэньня Янкі Купалы. Зборнік папярэджаны вялікім навукова-крытычным артыкулам др. Ст. Станкевіча аб жыцьці й творчасьці Янкі Купалы, зьмяшчае ў сабе 9 фотоздымкаў як самога паэты з розных пэрыядаў ягонага жыцьця, гэтак і ілюстрацыяў, якія датычаць творчасьці й жыцьця Янкі Купалы. Кніга мае разьмер вялікае васьмёркі й абыймае 564 бачыны друку. Прыгожую каляровую вокладку кнігі (у чатырох колерах) выканаў беларускі мастак Міхась Наўмовіч.**

**ЦАНА КНІГІ:**

**1. На добрай паперы ў мяккай папяровай вокладцы — 7 амэр. даляраў за 1 эгзэмпляр. З гледзішча на вялікі разьмер кнігі, у гэткім стане яна будзе нятрывалкай. Таму тыя, што яе купяць у такой вокладцы, павінны самі даць яе пераплесьці ў цьвёрдую вокладку.**

**2. На добрай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы з пазалочанымі надпісамі на ёй і з рухомай папяровай вокладкай зьверху — 9 амэрыканскіх даляраў.**

**3. На люксусовай бліскучай паперы у цьвёрдай палатнянай вокладцы з пазалочанымі надпісамі на ёй і з рухомай папяровай вокладкай зьверху — 11 амэрыканскіх даляраў.**

**У краінах, за выключэньнем ЗША і Канады, раўнавартасьць вышэйшай даляровай сумы ў мясцовай валюце.**

**Кнігу можна выпісваць непасрэдна з Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне, а так-жа з Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны» паза Нямеччынай і зь беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у краінах расьсяленьня Беларусаў.**

**Выбар паэзіі Янкі Купалы «СПАДЧЫНА» — гэта наш нацыянальны скарб на эміграцыі, гэта найвялікшая нашая пацеха на чужыне, гэта найбольш годная нашая нацыянальная рэпрэзэнтацыя перад чужынцамі. Не павінна быць аніводнага Беларуса, які-б ня быў собсьнікам гэтае кнігі!**

## АБВЕСТКА

Выйшаў з друку й прадаецца ў Рэдакцыі ЗЬНІЧУ (Roma, v. Traspontina 18) найнавейшы пераклад

**СЬВЯТОЕ ЭВАНЭЛІІ Й АПОСТАЛЬСКІХ ДЗЕЯЎ**

Кніга, зьмяшчаючая 636 бачын, апрацавана й выдана салідна і прыгожа — як падае рэцэнзія ў № 25 (255) нашай газэты, дзе, як выясьняе дадаткова рэцэнзэнт, крытычная зацемка аб мове перакладчыка мае на ўвеце пэўныя толькі формы, вымагаючыя для некаторых чытачоў большага паясьненьня, а не — якія небудзь недапушчальнасьці.

Цана кнігі:

у брашуровай аправе 3 даляры
у палатнянай аправе 5 даляраў.

## ПОШУКІ

**Адамовіч Станіслаў** шукае брата **Язэпа** (народжаны ў 1922 г. у сяле **Аселец**, Грэскага р-ну на Случчыне) і сястру **Іванову Марыю з мужам Іванам** (народжаныя абое ў 1914 г. на Случчыне). За адшуканьне ўспомненых асобаў вызначаецца **ўзнагарода ў вышыні 100 даляраў за кажную асобу.** Весткі просіцца слаць на адрас:

Mr. S. Adamowicz, 2718 W. Cortez,
Chicago 22, Ill, USA

—o—

**Гуркова Кацярына** шукае **Гуркова Івана** зь вёскі Дебедзеўка, Прапайскага р-ну. Весткі просіцца слаць на адрас:

K. Hurkowa, 3824 Clark St., Montreal, Q.,
Canada

**Чопчыц Павел** шукае сябру **Чопчыца Пятра,** які паводля апошніх вестак павінен быць у Ангельшчыне. Весткі просіцца слаць на адрас часапісу «Палесьсе» ў Монтрэалі (Канада).

—o—

**Олейнік Сава,** які быў лясьніком у Дуба ў 1939 г., шукае жонку **Васілісу,** дачок **Веру, Ніну й Вольгу** і сына **Анатоля,** якія былі эвакуаваныя Немцамі **зь Вялікіх Чучавіч** (Лунінецкі пав.) у 1944 г. У 1947 г. усе яны былі ў ангельскай зоне Нямеччыны ў Гановэры ў лягеры ўцекачоў. Весткі просіцца слаць на адрас:

Mr. Sawa Oleiynik, 211 16th Ave So.
Minneapolis 4, Minn., USA.

## АБВЕСТКА

Падаем да ведама нашых суродзічаў, што з усімі пытаньнямі адносна эміграцыі ў ЗША трэба зварочвацца да эміграцыйнага рэфэрэнта Галоўнае Ўправы БАЗА, сп-ра Ч. Ханяўкі на адрас:

Mr C. Chaniauka, 80 Prentict Ave., South River, N. J., USA

**Управа БНК у Зах. Нямеччыне**

**БЕЛАРУСКІ ПЕСЕННЫ ЗБОРНІК**

Ужо выйшаў і прадаецца пяты выпуск (выйшаў не чаргова) **Беларускага Песеннага Зборніка,** які абыймае патрыятычныя сьпевы для хору. Папярэдні выпуск абыймаў беларускія абрадавыя сьпевы й гульні, а наступны будзе абыймаць беларускія народныя танцы й гульні.

Замоўленьні просіцца слаць на адрас:

Mr. Ul. Duniec,
1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio
USA

# Да ўвагі нашых падпішчыкаў і даўжнікоў

Асобы, якія атрымоўваюць нашу газэту непасрэдна зь Нямеччыны, грошы за яе павінны перасылаць Прадстаўніком «Бацькаўшчыны» ў краі свайго пражываньня.

**Адміністрацыя «Б-ны»**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes. Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčećka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**Section Bielorussiene de C. F. T. C.** 26, Rue de Montholon, Paris 9.

**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.